Артыкул 56. **Міжнародныя дагаворы ў галіне аховы навакольнага асяроддзя**

Калі ў міжнародным дагаворы, заключаным Рэспублікай Беларусь, устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, якія змяшчаюцца ў гэтым Законе, то прымяняюцца правілы міжнароднага дагавора.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

26 лістапада 1992 года, гор. Мінск.
№ 1982—XII.

---

ПАСТАНОВА
ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 2 Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове навакольнага асяроддзя»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове навакольнага асяроддзя» з дня апублікавання.

2. У далейшым да прывядзення заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб ахове навакольнага асяроддзя» акты дзеючага заканадаўства Рэспублікі Беларусь па ахове навакольнага асяроддзя прымяняюцца ў той частцы, што не супярэчыць гэтаму Закону.

3. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

у месячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць палажэнне аб пазабюджэтных фондах аховы прыроды;

у трохмесячны тэрмін прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб ахове навакольнага асяроддзя», а таксама прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з указаным Законам;

у месячны тэрмін забяспечыць перагляд і адмену міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі, ведамствамі Рэспублікі Беларусь іх нарматыўных актаў, якія супярэчаць Закону Рэспублікі Беларусь «Аб ахове навакольнага асяроддзя»;

у трохмесячны тэрмін вызначыць парадак ажыццяўлення маніторынгу навакольнага асяроддзя, а таксама змест і парадак вядзення дзяржаўных кадастраў прыродных рэсурсаў.



4. Прызнаць страціўшым сілу Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове прыроды ў Рэспубліцы Беларусь» ад 21 снежня 1961 г. (ЗЗ БССР, 1961 г., № 38, арт. 380).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

26 лістапада 1992 года, гор. Мінск.
№ 1983—XII.

---

ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 3 Аб унясенні змянення ў Папраўча-працоўны кодэкс Рэспублікі Беларусь*

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Частку трэцюю артыкула 60 Папраўча-працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, зацверджанага Законам Рэспублікі Беларусь ад 16 ліпеня 1971 года (ЗЗ БССР, 1971 г., № 21, арт. 298; 1988 г., № 23, арт. 359), выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Асуджаныя атрымліваюць харчаванне, якое забяспечвае нармальную жыццядзейнасць арганізма. Нормы харчавання дыферэнцыруюцца ў залежнасці ад характару выконваемай асуджанымі работы і іх адносін да працы. Асуджаныя, змешчаныя ў штрафны ізалятар, у памяшканні камернага тыпу ў калоніях агульнага, узмоцненага і строгага рэжыму, у адзіночную камеру ў калоніі асобага рэжыму, а таксама пераведзеныя на строгі рэжым або ў карцэр у турме, атрымліваюць харчаванне па зніжаных нормах, але не ніжэй фізіялагічных норм. Перавод асуджаных на зніжаныя нормы харчавання можа ажыццяўляцца пры наяўнасці пісьмовага заключэння ўрача. Асуджаныя, пераведзеныя на зніжаныя нормы харчавання, падлягаюць штодзённаму агляду ўрачом на прадмет стану здароўя і далейшага іх утрымання на зніжаных нормах харчавання, аб чым пісьмова даводзіцца да ведама начальніка ўстановы».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

17 снежня 1992 года, гор. Мінск.
№ 2053—XII.

---

* *Апублікаваны ў газетах: «Звязда» — 9 студзеня 1993 года, «Народная газета» — 13 студзеня 1993 года.*

## 4 Аб прызнанні страціўшымі сілу некаторых заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь*

У сувязі з прыняццем Закона Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях» Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прызнаць страціўшымі сілу:

Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 27 лютага 1977 года «Аб зацвярджэнні Палажэння аб рэлігійных аб'яднаннях» (ЗЗ БССР, 1977 г., № 7, арт. 82);

Закон Рэспублікі Беларусь ад 1 сакавіка 1977 года «Аб зацвярджэнні Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні Палажэння аб рэлігійных аб'яднаннях» (ЗЗ БССР, 1977 г., № 7, арт. 91);

Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 3 лютага 1983 года «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Палажэнне аб рэлігійных аб'яднаннях» (ЗЗ БССР, 1983 г., № 4, арт. 77);

Закон Рэспублікі Беларусь ад 30 чэрвеня 1983 года «Аб зацвярджэнні Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь» (ЗЗ БССР, 1983 г., № 19, арт. 331) у частцы зацвярджэння Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 3 лютага 1983 года «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Палажэнне аб рэлігійных аб'яднаннях».

2. Гэты Закон уступае ў дзеянне з дня яго апублікавання.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

17 снежня 1992 года, гор. Мінск.
№ 2056—XII.

---

* *Апублікаваны ў газетах: «Звязда» — 9 студзеня 1993 года, «Народная газета» — 13 студзеня 1993 года.*





## 5 Аб прызнанні грамадзянамі Рэспублікі Беларусь асоб, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачых, і членаў іх сем'яў*

У сувязі з прыняццем ваеннай прысягі на вернасць народу Рэспублікі Беларусь Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Прызнаць грамадзянамі Рэспублікі Беларусь асоб, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачых, што прыбылі ў рэспубліку для праходжання службы пасля ўступлення ў сілу Закона «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь», якія выкажуць жаданне быць грамадзянамі Рэспублікі Беларусь і прыняць прысягу на вернасць народу Рэспублікі Беларусь, а таксама членаў іх сем'яў па іх жаданню пасля пераезду ў рэспубліку.

Асабістыя заявы асоб, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачых, і членаў іх сем'яў аб прызнанні іх грамадзянамі Рэспублікі Беларусь падаюцца для ўліку ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праз адпаведныя міністэрствы і ведамствы Рэспублікі Беларусь.

Пытанні, не ўрэгуляваныя гэтым Законам, вырашаюцца ў адпаведнасці з Законам «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь».

Гэты Закон дзейнічае да 31 снежня 1993 года.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

22 снежня 1992 года, гор. Мінск.
№ 2059—XII.

---

ПАСТАНОВА
ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 6 Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прызнанні грамадзянамі Рэспублікі Беларусь асоб, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачых, і членаў іх сем'яў»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб прызнанні

---

* *Апублікаваны ў газетах: «Звязда» — 9 студзеня 1993 года, «Народная газета» — 13 студзеня 1993 года.*

грамадзянамі Рэспублікі Беларусь асоб, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачых, і членаў іх сем'яў» з моманту яго прыняцця.

2. Даручыць Прэзідыуму Вярхоўнага Савета, Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь прааналізаваць ход выканання ўказанага Закона, прынясце прысягі на вернасць народу Рэспублікі Беларусь і праінфармаваць аб гэтым Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у IV квартале 1993 года.

Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь прывесці ў адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб прызнанні грамадзянамі Рэспублікі Беларусь асоб, на якіх распаўсюджваецца статус ваеннаслужачых, і членаў іх сем'яў» рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

22 снежня 1992 года, гор. Мінск.
№ 2060—XII.

---

ПАСТАНОВА
ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 7 Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб часовым парадку валютнага рэгулявання і правядзенні валютных аперацый на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці ў Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 1992 года «Аб часовым парадку валютнага рэгулявання і правядзенні валютных аперацый на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 13, арт. 221) наступныя змяненні і дапаўненні:

пункт 1.1 дапоўніць словамі: «зацвярджае нарматывы абавязковага продажу валютнай выручкі дзяржаве і ўмовы падаткаабкладання валютнай выручкі»;

пункт 1.2 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«1.2. Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь:

выконвае функцыі па аператыўнаму кіраванню і выкарыстанню сродкаў Дзяржаўнага валютнага фонду Рэспублікі Беларусь;



уносіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб размерах і напрамках выкарыстання знешніх пазык Рэспублікі Беларусь;

вызначае неабходнасць і ўмовы прыцягнення крэдытаў у межах устаноўленага Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь ліміту знешняга дзяржаўнага доўгу і ажыццяўляе кантроль за выкананнем абавязацельстваў па яго пагашэнню;

надзяляе ўпаўнаважаныя банкі Рэспублікі Беларусь, якія маюць ліцэнзію Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, паўнамоцтвамі выступаць агентамі па прыцягненню ад імя Урада дзяржаўных крэдытаў»;

пункт 1.3 дапоўніць словамі: «прадстаўленню інтарэсаў Рэспублікі Беларусь у адносінах з цэнтральнымі банкамі іншых дзяржаў, міжнароднымі фінансава-крэдытнымі ўстановамі, а таксама заключэнню адпаведных міжбанкаўскіх пагадненняў, правядзенню ўсіх відаў валютных аперацый; удзелу ў падрыхтоўцы атрымання, уліку і пагашэння міжурадавых валютных крэдытаў; вызначэнню адзінай формы ўліку, справаздачнасці, дакументацыі і статыстыкі валютных аперацый; падрыхтоўцы да публікацыі статыстыкі валютна-фінансавых аперацый па прынятых міжнародных стандартах; складанню зводнага валютнага плана (плацежнага балансу) Рэспублікі Беларусь; вызначэнню сумесна з Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу методыкі складання валютнага плана (плацежнага балансу); прымяненню ў парадку, прадугледжаным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, санкцый за парушэнне правіл ажыццяўлення валютных аперацый, а таксама за невыкананне або неналежнае выкананне нарматыўных дакументаў Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь у галіне валютнага рэгулявання і валютнага кантролю»;

дапоўніць Пастанову пасля пункта 1.3 новым пунктам 1.4 наступнага зместу:

«1.4. Органамі валютнага кантролю ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь, Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь, Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны мытны камітэт Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па знешніх эканамічных сувязях, Галоўная дзяржаўная падатковая інспекцыя Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь»;

пункты 1.4 — 1.8 у дзеючай рэдакцыі лічыць адпаведна пунктамі 1.5—1.9;

пункт 1.6 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«1.6. Фарміраванне Дзяржаўнага валютнага фонду Рэспублікі Беларусь, валютных фондаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, валютнага рэзервовага фонду Нацыянальнага банка Рэспублі-

кі Беларусь ажыццяўляецца ў парадку, які ўстанаўліваецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь»;

абзац трэці пункта 1.9 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«У выпадку адкрыцця суб'ектамі гаспадарання валютных рахункаў за межамі Рэспублікі Беларусь без адпаведных ліцэнзій Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь органамі валютнага кантролю спаганяецца штраф з вінаватых асоб у дзесяціразовым размеры мінімальнай заработнай платы. Акрамя таго, па прадстаўленню органаў валютнага кантролю Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па знешніх эканамічных сувязях мае права прыпыняць дзеянне або пазбаўляць суб'ектаў гаспадарання пасведчання ўдзельніка знешнеэканамічных сувязей»;

пункт 6 дапоўніць абзацам:

«Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь унесці адпаведныя дапаўненні і змяненні ў палажэнні аб міністэрствах і ведамствах, якім дадзенай Пастановай прадастаўлены паўнамоцтвы ў галіне валютнага рэгулявання і валютнага кантролю»;

пункт 7 выключыць;

з пункта 8 выключыць словы «на 1992 год».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

11 снежня 1992 года, гор. Мінск.
№ 2038—XII.

---

ПАСТАНОВА
ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 8 Аб фарміраванні і выкарыстанні валютных фондаў Рэспублікі Беларусь у 1993 годзе

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць, што ў 1993 годзе Дзяржаўны валютны фонд Рэспублікі Беларусь фарміруецца за кошт:

збірання падатку ў свабодна канверсуемай валюце з валютнай выручкі суб'ектаў гаспадарання ў размеры 10 працэнтаў;

абавязковага продажу 20 працэнтаў валютнай выручкі суб'ектаў гаспадарання па курсу, што каціруецца Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь.

2. Выплата падатку і абавязковы продаж валюты ў Дзяржаўны валютны фонд Рэспублікі Беларусь ажыццяўляюцца ўсімі суб'ектамі гаспадарання, зарэгістраванымі ва ўстаноўленым парадку на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, за выключэннем прадпрыемстваў, якія поўнасцю належаць замежным інвестарам, і сумесных прадпрыемстваў з доляй замежных інвестыцый у статутным фондзе больш чым 30 працэнтаў, валютная выручка якіх атрымана ад рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг) уласнай вытворчасці.

Палажэнні пункта 1 дадзенай Пастановы распаўсюджваюцца на ўсе віды аперацый, звязаных з рэалізацыяй прадукцыі (работ, паслуг) за свабодна канверсуемую валюту, незалежна ад спосабу іх ажыццяўлення (самастойна або праз пасрэднікаў) і характару здзелак, уключаючы рэалізацыю на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Пры гэтым па тавараабменных (бартэрных) аперацыях прымяняецца толькі падатак у размеры 10 працэнтаў да кантрактнага кошту тавараў або да разліковай выручкі, пералічанай у грашовых адзінках Рэспублікі Беларусь па курсу, які каціруецца Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь. Выплата падатку ў гэтых выпадках можа ажыццяўляцца як у свабодна канверсуемай валюце, так і ў грашовых адзінках Рэспублікі Беларусь.

3. Устанавіць, што з мэтай устаранення двайнога падаткаабкладання балансавы прыбытак суб'ектаў гаспадарання памяншаецца на суму падатку на валютную выручку. Пры гэтым сума падатку, вылічаная ў замежнай валюце, пералічваецца ў валюту, якая прымяняецца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, па курсу, што каціруецца Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь.

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін распрацаваць парадак збірання падатку на валютную выручку і абавязковага продажу валюты ў Дзяржаўны валютны фонд Рэспублікі Беларусь.

Прадаставіць права Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у выключных выпадках прадастаўляць ільготы па абавязковаму продажу і падаткаабкладанню валютнай выручкі ў Дзяржаўны валютны фонд Рэспублікі Беларусь.

5. Устанавіць, што ў 1993 годзе сродкі Дзяржаўнага валютнага фонду Рэспублікі Беларусь накіроўваюцца толькі на тыя агульнадзяржаўныя мэты, дзе іншыя крыніцы фінансавання, акрамя названага фонду, адсутнічаюць, у тым ліку:

узносы ў міжнародныя арганізацыі, членства ў якіх адобрана Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь і Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

утрыманне пасольстваў і іншых замежных устаноў Рэспублікі Беларусь;

ажыццяўленне плацяжоў па абслугоўванню валютных крэдытаў, адобраных Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь;

аплату расходаў у замежнай валюце па службовых замежных

камандзіроўках дэлегацый Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і іншых неадкладных патрэб гэтых органаў у межах зацверджаных каштарысаў на іх утрыманне;

закупку харчавання, медыкаментаў у надзвычайных сітуацыях;

забеспячэнне бяспекі і падтрыманне неабходнай абараназдольнасці Рэспублікі Беларусь;

аплату іншых агульнадзяржаўных расходаў.

6. У мэтах максімальнай канцэнтрацыі валютных сродкаў для вырашэння агульнадзяржаўных задач валютныя фонды мясцовых Саветаў народных дэпутатаў за кошт абавязковага продажу валюты не ствараюцца.

Міністэрствы, ведамствы, мясцовыя Саветы народных дэпутатаў, прадпрыемствы і арганізацыі для задавальнення сваіх патрэбнасцей у валютных сродках набываюць іх на валютных аўкцыёнах або ва ўпаўнаважаных банках. У выпадку рэалізацыі сумесных праграм сродкі валютных фондаў суб'ектаў гаспадарання могуць аб'ядноўвацца на дагаворнай аснове.

7. Суб'екты гаспадарання нясуць адказнасць за своечасовае і поўнае пералічэнне сродкаў у Дзяржаўны валютны фонд Рэспублікі Беларусь.

У выпадку неўнясення плацяжоў у Дзяржаўны валютны фонд Рэспублікі Беларусь у 20-дзённы тэрмін з даты паступлення валютнай выручкі на рахунак плацельшчыка, у тым ліку ў замежных банках, устанаўліваецца штраф у свабодна канверсуемай валюце ў размеры 100 працэнтаў неперalічаных сум.

Пры адсутнасці (недастатковасці) валютных сродкаў на момант выяўленага парушэння штраф выплачваецца ў валюце, якая дзейнічае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і пералічана па курсу, што каціруецца Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь на дату паступлення валютных сродкаў на рахунак прадпрыемства.

Выплата штрафу не вызваляе плацельшчыка ад унясення ўстаноўленых плацяжоў у Дзяржаўны валютны фонд Рэспублікі Беларусь. Сума выплачанага штрафу адносіцца за кошт прыбытку, што застаецца ў распараджэнні суб'екта гаспадарання.

Гэта санкцыя прымяняецца і пры ўстанаўленні фактаў парушэнняў парадку афармлення знешнегандлёвых аперацый (замена дадаткаў да кантракта пасля атрымання ліцэнзіі і інш.).

8. Устанавіць, што суб'екты гаспадарання (уключаючы ўпаўнаважаныя банкі) за адсутнасць уліку валютных аперацый, вядзенне ўліку валютных аперацый з парушэннем устаноўленага парадку, непрадстаўленне або несвоечасовае прадстаўленне органам валютнага кантролю дакументаў і інфармацыі нясуць адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.



9. Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь, Міністэрству фінансаў Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнаму камітэту Рэспублікі Беларусь па знешніх эканамічных сувязях, Дзяржаўнаму мытнаму камітэту Рэспублікі Беларусь забяспечыць кантроль за выкананнем палажэнняў, устаноўленых дадзенай Пастановай.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

15 снежня 1992 года, гор. Мінск.
№ 2047—XII.

---

ПАСТАНОВА
ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 9 Аб увядзенні ў дзеянне Ваеннай дактрыны Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць Ваенную дактрыну Рэспублікі Беларусь.

2. У адпаведнасці з рашэннем Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, прынятым пры ратыфікацыі Дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе, і зыходзячы з прынцыпу разумнай дастатковасці для абароны, прадугледзець, што колькасць ваеннаслужачых Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь да 1995 года павінна быць скарочана да 100 000 чалавек.

3. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 сакавіка 1993 года:

прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы па прывядзенню заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Ваеннай дактрынай Рэспублікі Беларусь;

прывесці рашэнне Урада ў адпаведнасць з Ваеннай дактрынай Рэспублікі Беларусь.

4. Гэту Пастанову ўвесці ў дзеянне з моманту прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

16 снежня 1992 года, гор. Мінск.
№ 2049—XII.

---

ПАСТАНОВА
ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 10 Аб дакладзе Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па вывучэнню пытання захавання маёмасці каманднага пункта былога штаба Аб'яднаных Узброеных Сіл краін Варшаўскага Дагавора

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць да ведама даклад Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па вывучэнню пытання захавання маёмасці каманднага пункта былога штаба Аб'яднаных Узброеных Сіл краін Варшаўскага Дагавора.

2. Пракуратуры Рэспублікі Беларусь прыняць неабходныя меры па фактах парушэння заканадаўства, выкладзеных у дакладзе Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па вывучэнню пытання захавання маёмасці каманднага пункта былога штаба Аб'яднаных Узброеных Сіл краін Варшаўскага Дагавора, і інфармаваць аб іх Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь забяспечыць захаванне маёмасці каманднага пункта былога штаба Аб'яднаных Узброеных Сіл краін Варшаўскага Дагавора да канчатковага вырашэння пытанняў, узнятых Часовай камісіяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па вывучэнню пытання захавання маёмасці каманднага пункта былога штаба Аб'яднаных Узброеных Сіл краін Варшаўскага Дагавора.

4. Кантроль за выкананнем дадзенай Пастановы ўскласці на Часовую камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па вывучэнню пытання захавання маёмасці каманднага пункта былога штаба Аб'яднаных Узброеных Сіл краін Варшаўскага Дагавора.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

18 снежня 1992 года, гор. Мінск.
№ 2057—XII.

---

ПАСТАНОВА
ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 11 Аб вызваленні Шаладонава В. І. ад абавязкаў намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Вызваліць **Шаладонава** Васіля Іванавіча ад абавязкаў намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з 31 снежня 1992 года ў сувязі з пераходам на іншую работу.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

23 снежня 1992 года, гор. Мінск.
№ 2063—XII.

---

ПАСТАНОВА ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
І САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 12 Аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1992 года ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

Разгледзеўшы прапановы Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, Прэзідыум Вярхоўнага Савета і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляюць:**

1. Улічваючы, што значна павялічылася колькасць твораў, прадстаўленых на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, якія адрозніваюцца высокімі мастацкімі і навукова-даследчымі якасцямі, лічыць мэтазгодным прысудзіць у парадку выключэння 12 прэмій замест 11.

2. Прысудзіць Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь за 1992 год:

**У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ**

*ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ*

**Законнікаву** Сяргею Іванавічу — за кнігу паэзіі «Заклінанне».
**Звонаку** Алесю (Звонаку Пятру Барысавічу) — за кнігу паэзіі «Святлацені».

**Грахоўскаму** Сяргею Іванавічу — за кнігу «Споведзь».

**Жуку** Аляксандру Аляксандравічу — за кнігу «Праклятая любоў».

**Сёмуху** Васілію Сяргеевічу — за пераклад з нямецкай мовы на беларускую рамана Томаса Мана «Доктар Фаўстус».

*ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА*

**Ермаловічу** Мікалаю Іванавічу — за гістарычна-публіцыстычную кнігу «Старажытная Беларусь. Полацкі і навагародскі перыяды».

**ЗА ТВОРЫ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ЮНАЦТВА**

**Пархуту** Яраславу Сільвестравічу — за кнігу «Зямля бацькоў нашых».

**У ГАЛІНЕ ЖУРНАЛІСТЫКІ**

**Уліцёнку** Аляксандру Леанідавічу — за кнігу публіцыстыкі «Іншадумцы. Мыслящие иначе».

**У ГАЛІНЕ МУЗЫКІ І КАНЦЭРТНА-ВЫКАНАЛЬНІЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ**

**Гарэлавай** Галіне Канстанцінаўне, кампазітару,— за кантату «У год сусветнага пажару».

**У ГАЛІНЕ ТЭАТРАЛЬНАГА МАСТАЦТВА**

**Кін-Камінскаму** Уладзіміру Тадэвушавічу, **Кур'яну** Уладзіміру Мітрафанавічу, **Манаеву** Віктару Сяргеевічу, **Пінігіну** Мікалаю Мікалаевічу — за пастаноўку ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы спектакля «Тутэйшыя» па п'есе Янкі Купалы.

**У ГАЛІНЕ АРХІТЭКТУРЫ І ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА**

**Агуновічу** Эдуарду Канстанцінавічу, мастаку,— за архітэктурна-мастацкае вырашэнне экспазіцый Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску і Музея партызанскай славы ў г. п. Ушачы Віцебскай вобласці.

**Селешчуку** Мікалаю Міхайлавічу, мастаку,— за серыю графічных аркушаў «Святы» («Каляды», «Гуканне вясны», «Вербніца»), за цыкл карцін «Мая Беларусь», за ілюстрацыі да кніг «Сымон-музыка» Якуба Коласа і «Сказки белорусских писателей».



3. Устанавіць у 1992 годзе Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры ў памеры 50 мінімальных заработных плат.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧ.**

28 снежня 1992 года, гор. Мінск.
№ 2077—XII.

---

УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 13 Аб уключэнні вёскі Чырвоны Бор Ждановіцкага сельсавета Мінскага раёна Мінскай вобласці ў гарадскую рысу горада Мінска

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Уключыць вёску Чырвоны Бор Ждановіцкага сельсавета Мінскага раёна Мінскай вобласці ў гарадскую рысу горада Мінска.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

5 студзеня 1993 года, гор. Мінск.
№ 2083—XII.




# ВЕДОМОСТИ

## ВЕРХОВНОГО СОВЕТА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

**5 января 1993 г.** **№ 1(75)** **Издаются с 1990 г.**


**СОДЕРЖАНИЕ**

*Законы и постановления, принятые на десятой сессии Верховного Совета Республики Беларусь двенадцатого созыва*

5. Закон Республики Беларусь о признании гражданами Республики Беларусь лиц, на которых распространяется статус военнослужащих, и членов их семей.
6. Постановление Верховного Совета Республики Беларусь о введении в действие Закона Республики Беларусь «О признании гражданами Республики Беларусь лиц, на которых распространяется статус военнослужащих, и членов их семей».
7. Постановление Верховного Совета Республики Беларусь о внесении изменений и дополнений в Постановление Верховного Совета Республики Беларусь «О временном порядке валютного регулирования и проведении валютных операций на территории Республики Беларусь».
8. Постановление Верховного Совета Республики Беларусь о формировании и использовании валютных фондов Республики Беларусь в 1993 году.
9. Постановление Верховного Совета Республики Беларусь о введении в действие Военной доктрины Республики Беларусь.
10. Постановление Верховного Совета Республики Беларусь о докладе Временной комиссии Верховного Совета Республики Беларусь по изучению вопроса сохранения имущества командного пункта бывшего штаба Объединенных Вооруженных Сил стран Варшавского Договора.
11. Постановление Верховного Совета Республики Беларусь об освобождении Шолодонова В. И. от обязанностей заместителя Председателя Верховного Совета Республики Беларусь.

* *
*

12. Постановление Президиума Верховного Совета Республики Беларусь и Совета Министров Республики Беларусь о присуждении Государственных премий Республики Беларусь 1992 года в области литературы, искусства и архитектуры.
13. Указ Президиума Верховного Совета Республики Беларусь о включении деревни Красный Бор Ждановичского сельсовета Минского района Минской области в городскую черту города Минска.

ЗАКОН РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

# 1 Об охране окружающей среды*

Охрана окружающей среды, рациональное использование природных ресурсов, обеспечение экологической безопасности человека — неотъемлемое условие устойчивого экономического и социального развития государства. Настоящий Закон призван обеспечить правовые основы такого пути развития Республики Беларусь, защиту прав человека на благоприятную для его жизни и здоровья окружающую среду, определить правовые и экономические основы охраны окружающей среды в интересах настоящего и будущих поколений людей.

## Раздел I
## ОБЩИЕ ПОЛОЖЕНИЯ

### Статья 1. **Задачи законодательства Республики Беларусь об охране окружающей среды**

Задачами законодательства Республики Беларусь об охране окружающей среды являются:

обеспечение безопасного для жизни и здоровья людей состояния окружающей среды;

регулирование отношений в области охраны, использования и воспроизводства природных ресурсов;

сохранение природных ресурсов, генетического фонда живой природы, охрана естественных богатств, природного окружения, ландшафтов и других природных комплексов.

### Статья 2. **Основные принципы охраны окружающей среды**

При планировании и осуществлении деятельности, оказывающей влияние на состояние окружающей среды, Советы народных депутатов, органы исполнительной власти, юридические и физические лица, иностранные инвесторы обязаны руководствоваться следующими основными принципами:

приоритетом охраны жизни и здоровья человека в сравнении с другими целями природопользования, обеспечения прав граждан на благоприятную для жизни, труда и отдыха окружающую среду;

соблюдением требований законодательства об охране окружающей среды;

---

* *Опубликован в газетах: «Звязда» — 14 января 1993 года, «Народная газета» — 15 января 1993 года.*

научно обоснованным сочетанием экологических и экономических интересов общества;

сочетанием национальных и международных интересов в области окружающей среды;

рациональным использованием природных ресурсов с учетом возможностей окружающей среды, необходимости воспроизводства природных ресурсов и недопущения необратимых последствий для окружающей среды и здоровья человека;

гласностью в работе, тесной связью с общественными объединениями и населением при решении природоохранных задач.

### Статья 3. **Объекты природы, подлежащие охране**

Охране подлежат как вовлеченные в хозяйственный оборот, так и не используемые напрямую либо в данный период виды природных ресурсов, к которым относятся: климатические ресурсы, атмосфера, включая озоновый слой, земля, ее недра и почвы, воды (поверхностные, подземные и почвенная влага), растительный и животный мир в их видовом разнообразии во всех сферах обитания и произрастания, типичные и редкие ландшафты, а также иные природные объекты как компоненты экологических систем и биосферы.

### Статья 4. **Законодательство Республики Беларусь об охране окружающей среды и природных ресурсов**

Отношения в области охраны окружающей среды в Республике Беларусь регулируются настоящим Законом, другими нормативными актами Республики Беларусь.

## Раздел II
## ПРАВА И ОБЯЗАННОСТИ ГРАЖДАН В ОБЛАСТИ ОХРАНЫ ОКРУЖАЮЩЕЙ СРЕДЫ

### Статья 5. **Права граждан в области охраны окружающей среды**

Граждане Республики Беларусь и иные лица, проживающие на ее территории, имеют право:

создавать общественные объединения и фонды по охране окружающей среды и контролю за ее состоянием;

требовать и получать полную и достоверную информацию о состоянии окружающей среды и мерах по ее охране;

вносить предложения о запрещении размещения, прекращении проектирования, строительства, реконструкции, эксплуатации объектов, оказывающих отрицательное влияние на окружающую среду и здоровье человека;



предъявлять в суд иски о возмещении вреда здоровью и имуществу граждан, имуществу юридических лиц, причиненного нарушениями природоохранного законодательства либо ставшего следствием связанных с такими нарушениями экологических катастроф.

Законодательством Республики Беларусь могут быть определены и иные права граждан по охране окружающей среды.

### Статья 6. **Обязанности граждан в области охраны окружающей среды**

Граждане Республики Беларусь и иные лица, проживающие на ее территории, обязаны: беречь и охранять природу, рационально использовать ее богатства, соблюдать требования природоохранного законодательства, повышать экологическую культуру, содействовать экологическому воспитанию подрастающего поколения, выполнять другие обязанности в области охраны окружающей среды в соответствии с законодательством Республики Беларусь.

### Статья 7. **Права общественных объединений в области охраны окружающей среды**

Общественные экологические объединения, иные общественные объединения Республики Беларусь, осуществляющие экологические функции, имеют право:

разрабатывать и пропагандировать свои экологические программы, защищать права и интересы населения в области охраны окружающей среды, способствовать повышению экологической культуры населения, привлекать на добровольных началах граждан к активной природоохранной деятельности;

за счет своих средств и добровольного трудового участия членов организаций выполнять работы по охране и воспроизводству природных ресурсов, сохранению и улучшению окружающей среды, оказывать содействие государственным органам по охране природы в борьбе с нарушениями природоохранного законодательства, создавать общественные фонды по охране окружающей среды и расходовать их на проведение экологических мероприятий;

принимать участие в проведении государственной экологической экспертизы по размещению, проектированию, строительству, вводу в эксплуатацию экологически опасных объектов, проводить общественную экологическую экспертизу, вносить предложения, требовать в судебном порядке отмены решений по размещению, строительству, эксплуатации экологически опасных объектов, ограничению, приостановлению, прекращению, перепрофилированию их деятельности;

предъявлять в суд иски о возмещении вреда здоровью, имуществу граждан и общественных объединений, причиненного нарушением природоохранного законодательства.

Статья 8. **Гарантии прав граждан на здоровую и благоприятную для жизни окружающую среду**

Право граждан Республики Беларусь и иных лиц, проживающих на ее территории, на здоровую и благоприятную для жизни и здоровья окружающую среду обеспечивается:

планированием и нормированием качества окружающей среды, мерами по предотвращению экологически вредной деятельности и оздоровлению окружающей среды, предупреждению и ликвидации последствий аварий, катастроф, стихийных бедствий;

государственным контролем за состоянием окружающей среды и соблюдением природоохранного законодательства, привлечением к ответственности лиц, виновных в нарушении требований обеспечения экологической безопасности населения;

страхованием граждан, образованием государственных, общественных и иных фондов помощи лицам, пострадавшим от загрязнения окружающей среды;

возмещением в добровольном и судебном порядке вреда, причиненного здоровью и имуществу граждан в результате загрязнения окружающей среды и иных вредных воздействий на нее, в том числе последствий аварий и катастроф;

привлечением к ответственности в соответствии с законодательством Республики Беларусь лиц, умышленно искажающих или скрывающих информацию о состоянии окружающей среды, препятствующих выполнению гражданами и общественными объединениями их прав, вытекающих из настоящего Закона, другими гарантиями, предусмотренными настоящим Законом и иными законодательными актами Республики Беларусь.

## Раздел III
## ОРГАНЫ ГОСУДАРСТВЕННОЙ ВЛАСТИ И УПРАВЛЕНИЯ В ОБЛАСТИ ОХРАНЫ ОКРУЖАЮЩЕЙ СРЕДЫ

Статья 9. **Компетенция Верховного Совета Республики Беларусь в области охраны окружающей среды**

Верховный Совет Республики Беларусь в области охраны окружающей среды:

определяет государственную и межгосударственную экологическую политику;



осуществляет межгосударственное сотрудничество в области охраны окружающей среды;

разрабатывает и принимает законодательные акты об охране окружающей среды в Республике Беларусь;

определяет порядок организации и деятельности органов государственной власти и управления в области использования и охраны природных ресурсов, охраны окружающей среды;

рассматривает и утверждает государственную экологическую программу Республики Беларусь;

объявляет территории зонами экологического бедствия;

утверждает границы объектов природно-заповедного фонда республиканского значения и санкционирует их изменение;

рассматривает иные вопросы в области охраны окружающей среды и природопользования.

Статья 10. **Компетенция местных Советов народных депутатов в области охраны окружающей среды**

К ведению местных Советов народных депутатов в области охраны окружающей среды относятся:

организация планирования охраны окружающей среды, финансирование и материально-техническое обеспечение экологических программ;

координация деятельности экологических служб предприятий, учреждений, организаций;

принятие решений о запрещении деятельности юридических лиц и их отдельных производств, цехов, участков, находящихся на территории местного Совета, либо о лишении этих юридических лиц и их производств права пользования местными природными ресурсами в случаях загрязнения окружающей среды, нерационального использования природных ресурсов и других нарушений природоохранного законодательства, санитарных норм и правил;

организация экологического просвещения, образования и воспитания граждан;

обеспечение населения необходимой экологической информацией;

решение других вопросов охраны окружающей среды, отнесенных к компетенции органов местного самоуправления законодательством Республики Беларусь.

Местные Советы народных депутатов могут делегировать часть своих полномочий в области охраны окружающей среды органам Государственного комитета Республики Беларусь по экологии.

Статья 11. **Компетенция Совета Министров Республики Беларусь в области охраны окружающей среды**

Совет Министров Республики Беларусь в области охраны окружающей среды:

осуществляет реализацию определенной Верховным Советом Республики Беларусь экологической политики;

осуществляет меры по охране и научно обоснованному использованию природных ресурсов и улучшению окружающей среды;

обеспечивает разработку и реализацию государственной экологической программы Республики Беларусь;

координирует деятельность министерств, государственных комитетов, других подведомственных ему органов, занимающихся охраной окружающей среды;

создает республиканский внебюджетный фонд охраны природы;

утверждает порядок разработки экологических нормативов, лимитов использования природных ресурсов, выбросов и сбросов загрязняющих веществ в окружающую среду и размещения отходов;

определяет порядок учета, оценки природных ресурсов, а также порядок ведения кадастров природных ресурсов;

объявляет в случае необходимости участки территории зоной чрезвычайной экологической ситуации;

утверждает перечень особо ценных природных ресурсов и объектов окружающей среды;

организует систему экологического воспитания и образования граждан;

принимает решения о прекращении деятельности или перепрофилировании экологически вредных объектов республиканского значения;

осуществляет межправительственное сотрудничество в области охраны окружающей среды;

регулирует другие вопросы охраны окружающей среды и рационального использования природных ресурсов.

Статья 12. **Компетенция Государственного комитета Республики Беларусь по экологии и его подразделений в области охраны окружающей среды**

К компетенции Государственного комитета по экологии и его подразделений относятся:

контроль за деятельностью министерств, ведомств, предприятий, учреждений и организаций в области охраны окружающей среды;



проведение единой научно-технической политики по вопросам охраны окружающей среды и использования природных ресурсов;

государственный контроль за соблюдением норм экологической безопасности, наряду с другими специально уполномоченными государственными органами контроль за использованием и охраной недр, поверхностных и подземных вод, атмосферного воздуха, растительного и животного мира;

организация мониторинга природной среды;

утверждение совместно с органами санитарного надзора нормативов качества окружающей среды, участие в разработке стандартов по регулированию использования природных ресурсов и охране окружающей среды от загрязнения, истощения и иных вредных воздействий;

осуществление государственной экологической экспертизы;

получение безвозмездно от министерств, государственных комитетов, ведомств, предприятий, учреждений и организаций информации, необходимой для выполнения возложенных на него задач;

выдача и аннулирование разрешений на захоронение (складирование) промышленных, коммунально-бытовых и иных отходов, выбросы (сбросы) загрязняющих веществ в окружающую среду, на специальное использование природных ресурсов в соответствии с законодательством Республики Беларусь;

ограничение или приостановление деятельности предприятий и объектов независимо от формы собственности, если их эксплуатация осуществляется с нарушением природоохранного законодательства;

предъявление исков о возмещении вреда, причиненного в результате нарушения природоохранного законодательства;

разработка государственных экологических программ;

составление протоколов и рассмотрение дел о правонарушениях в области охраны окружающей среды и использования природных ресурсов в пределах прав, предоставленных законодательством Республики Беларусь;

учет и оценка природных ресурсов, ведение государственных кадастров водных ресурсов, торфяного фонда, животного и растительного мира;

ведение Красной книги Республики Беларусь;

обеспечение населения необходимой экологической информацией;

организация пропаганды экологических знаний среди населения;

осуществление на соответствующем уровне международного сотрудничества в области охраны окружающей среды, изучение, обобщение и распространение международного опыта, контроль за выполнением обязательств Республики Беларусь по международным соглашениям в области охраны окружающей среды.

Решения Государственного комитета по экологии в области охраны окружающей среды по вопросам, отнесенным к его компетенции, обязательны для всех юридических и физических лиц и могут быть обжалованы в установленном законодательством порядке.

Статья 13. **Компетенция иных специально уполномоченных государственных органов в области охраны окружающей среды**

Компетенция иных специально на то уполномоченных государственных органов по охране окружающей среды определяется законодательством Республики Беларусь.

## Раздел IV
## ЭКОНОМИЧЕСКИЙ МЕХАНИЗМ ОХРАНЫ ОКРУЖАЮЩЕЙ СРЕДЫ

Статья 14. **Экономический механизм обеспечения охраны окружающей среды**

Экономический механизм охраны окружающей среды включает в себя:

планирование и финансирование природоохранных мероприятий;

льготное кредитование и налогообложение природоохранной деятельности;

определение лимитов на пользование природными ресурсами, размещение отходов, допустимых выбросов (сбросов) загрязняющих веществ в окружающую среду;

взимание налога и других платежей за использование природных ресурсов, выбросы (сбросы) загрязняющих веществ в окружающую среду;

взимание платы за размещение отходов и другие виды вредного воздействия на окружающую среду;

возмещение в установленном порядке вреда, причиненного окружающей среде и здоровью населения.

Экономический механизм охраны окружающей среды может включать в себя и другие положения, определенные законодательством Республики Беларусь.



Статья 15. **Планирование мероприятий по охране окружающей среды**

Целью планирования мероприятий по охране окружающей среды и природопользованию является обеспечение гармоничного взаимодействия природы и общества на основе научно обоснованного сочетания экологических, экономических и социальных интересов, выбор наиболее эффективных средств природопользования, предотвращения и ликвидации негативного влияния хозяйственной и иной деятельности на окружающую среду, сохранение и увеличение природно-ресурсного потенциала Республики Беларусь.

Планирование мероприятий по охране окружающей среды осуществляется в составе прогнозных показателей социально-экономического развития Республики Беларусь и государственного плана с учетом государственных и иных программ и требований природоохранного законодательства.

Территориальное планирование охраны окружающей среды осуществляется соответствующими Советами народных депутатов с участием государственных органов и общественных организаций.

Отраслевое планирование в области охраны окружающей среды осуществляется министерствами, государственными комитетами и другими государственными органами с учетом показателей территориального планирования.

Статья 16. **Финансирование экологических программ и мероприятий по охране окружающей среды**

Финансирование экологических программ и мероприятий по охране окружающей среды производится за счет:

республиканского и местных бюджетов;

средств юридических лиц, добровольных взносов населения, иностранных граждан, а также других источников;

республиканского, местных внебюджетных фондов и общественных фондов охраны природы;

кредитов банков.

Статья 17. **Лимиты на пользование природными ресурсами**

Лимиты на пользование природными ресурсами являются системой экологических ограничений по территориям и представляют собой установленные природопользователям на определенный период времени объемы предельного использования (изъятия) природных ресурсов, выбросов (сбросов) загрязняющих веществ, размещения отходов.

Лимиты на добываемые природные ресурсы, лимиты допустимых выбросов (сбросов) загрязняющих веществ в окружающую среду устанавливаются в соответствии с Законом Республики Беларусь «О налоге за пользование природными ресурсами (экологический налог)».

Лимиты на размещение отходов устанавливаются областными и Минским городским Советами народных депутатов по согласованию с органами Государственного комитета по экологии.

### Статья 18. **Платежи за пользование природными ресурсами**

Платежи за пользование природными ресурсами включают:

платежи за пользование природными ресурсами;

платежи за выбросы (сбросы) загрязняющих веществ и плату за размещение отходов.

Порядок уплаты налога за пользование природными ресурсами, выбросы (сбросы) загрязняющих веществ в окружающую среду определяется Законом Республики Беларусь «О налоге за пользование природными ресурсами (экологический налог)».

Порядок уплаты налога за пользование землей регулируется специальным законом.

Нормативы платы за размещение отходов устанавливаются Советом Министров Республики Беларусь по представлению Государственного комитета по экологии.

За размещение отходов сверх установленных лимитов плата взимается в пятикратном размере.

Внесение платы за пользование природными ресурсами не освобождает природопользователя от выполнения мероприятий по охране окружающей среды и возмещения ущерба, причиненного нарушением природоохранного законодательства.

### Статья 19. **Внебюджетные фонды охраны природы**

Для финансирования неотложных природоохранных мероприятий, экологических программ восстановления потерь в окружающей среде, компенсации причиненного ущерба и других мероприятий по охране окружающей среды создаются республиканский, областные, Минский городской, районные (кроме районов в городах) и городские внебюджетные фонды охраны природы.

Внебюджетные фонды охраны природы образуются за счет:

средств, поступающих от юридических и физических лиц, включая иностранных;

платежей за выбросы (сбросы) загрязняющих веществ в окружающую среду;



платы за размещение отходов;

сумм, полученных в возмещение ущерба, штрафов за загрязнение окружающей среды и нерациональное использование природных ресурсов и другие нарушения природоохранного законодательства;

средств от реализации конфискованных орудий охоты и рыболовства, а также от продажи незаконно добытой с их помощью продукции;

инвалютных поступлений, полученных по искам от иностранных физических и юридических лиц за нарушение природоохранного законодательства;

добровольных взносов юридических лиц, пожертвований граждан и других поступлений;

долевого участия юридических лиц, других природопользователей в финансировании природоохранных работ;

доходов от проведения денежно-вещевых лотерей.

Средства внебюджетных фондов охраны природы зачисляются на специальные счета местных Советов народных депутатов, 10 процентов от них — на специальный текущий счет внебюджетных средств Государственного комитета по экологии.

Средства указанных фондов расходуются на цели оздоровления окружающей среды, осуществление мер и программ по охране окружающей среды и воспроизводству природных ресурсов, научные исследования, внедрение экологически чистых технологий, строительство очистных сооружений, развитие экологического воспитания и образования, создание материальной базы для осуществления контроля за состоянием окружающей среды, участие в организации международного сотрудничества в области охраны природы, иные нужды, связанные с охраной окружающей среды.

Расходование средств внебюджетных фондов охраны природы на цели, не связанные с природоохранной деятельностью, запрещается.

### Статья 20. **Экономическое стимулирование охраны окружающей среды**

В Республике Беларусь осуществляется стимулирование рационального природопользования и охраны окружающей среды путем:

предоставления юридическим и физическим лицам налоговых и иных льгот при внедрении малоотходных и безотходных ресурсо- и энергосберегающих технологий, переработке отходов производства и потребления, использовании вторичных ресурсов,

